# Тыднёвік Магілёўскі

№ 3 (3)
4.04.97


## Сон розуму

РЭДАКТАРСКІЯ НАТАТКІ

*Велікодныя выходныя дні падаравалі рэдкую цяпер магчымасць сустрэцца з сябрамі, пасядзець за святочным сталом, ацаніць непраходзячую мудрасць аб раскошы чалавечых дачыненняў. Аднак не такая ўжо і радасная гэтая раскоша, бо размовы цяпер вядуцца выключна пра палітыку і цяжкае жыццё. Як калісьці ў СССР.*

*Размовы гэтыя, праўда, з дзіўным акцэнтам. Пра родную сваю дзяржаву людзі гавораць так, як гавораць аб нябожчыку пасля вяртання з могілак: ён быццам яшчэ тут, толькі што быў, але ясна, што яго няма і больш не будзе. Расія цікавіць больш, пра яе ведаюць праз два каналы тэлебачання ўсё. Прозвішчы расійскіх палітыкаў так і лётаюць над сталом. А з беларускіх імёнаў адно толькі і гучыць: Лукашэнка. Па маёй просьбе ніхто не змог назваць больш трох імёнаў запар беларускіх членаў кабінета. Ніхто не ведае старшыню Нацыянальнага сходу (ці як ён там называецца?), ніхто не ведае што такое ніжэйшая і вышэйшая дэпутацкія палаты. Усё, што тычыцца апазіцыі —нагул практыкаванне з трыма невядомымі. Нейкія пагалоскі толькі і даходзяць — таго быццам пасадзілі, той з'ехаў за мяжу, пра таго зусім ніколі не чулі.*

*Не магу сказаць, што сябры мае і знаёмыя людзі недасведчаныя або абыякавыя людзі. Зусім не. Аднак у размове раз-пораз не толькі аб расійскім спорце, эстрадзе і кіно, а і аб палітыцы толькі і чуеш звыклае: нашы, нашы, нашы... Вось Балтыка ўжо не наша, Украіна таксама, розныя там былыя сацыялістычныя браты — тым больш. Забыліся, як і не было. У іх сёння ўсё сваё: і праблемы, і цяжкасці, і здабыткі, і памылкі. У іх свой дом і сваё жыццё. Адсюль і сталіся для нас нецікавымі.*

*У нас свайго няма. Усё цягнем галовы на ўсход, нібы птушкі, што пакінулі на зіму родныя мясціны і не дачакаюцца вяртання.*

*Не чуем і не слухаем ні сэрцаў сваіх, ні ўрокаў гісторыі, ні людзей разумных, што ў жах прыходзяць ад дзіўнага і дзікага нашага імкнення пазбавіцца краіны, якуюназначыў на зямлі разам з тутэйшым народам Бог. Імкненне не быць гаспадарамі свайго роднага кута і дома, сваіх жыццяў і жыццяў сваіх нашчадкаў.*

*Каго потым абвінавацім, калі ўся гэтая зацея з аб'яднаннем абернецца паражэннем і расчараваннем? Знойдзем, каго! Не сябе ж, вядома. Як не лічым вінаватымі сябе ў тым, што закрэслілі ў рэферэндумным кветку нацыянальны сцяг, а пакінулі паспешліва намаляваны ў ідэалагічных майстэрнях савецка-камуністычны чырвона-зялёны штандар. Як не лічым сябе вінаватымі ў тым, што аддалі галасы за "новую" канстытуцыю, не прачытаўшы яе да канца. Як перанеслі нават Дзень нараджэння краіны з рэальнага на міфічны... Усё былі шам — не мы. Не мы, наадварот, і прэзідэнта выбралі, пра якога так рэдка можна пачуць цяпер паважаныя словы.*

*А можа ўсё гэта і сапраўды няпраўда? Спім мы, прачнемся — і ўсё будзе не так, а нармальна... Толькі гэта такі сон, што пазбаўляе жыцця. Існаванне не пазбаўляе — жыцця! Калі прачнемся, жыць будзе позна. А жыць трэба зараз, цяпер, кожны дзень і кожную гадзіну. У гэтыя Велікодныя дні — каталіцкія і праваслаўныя — разумеецца гэта асабліва ясна. Прыслухайцеся...*

*Генадзь СУДНІК,*
*рэдактар ТЫДНЁВІКА.*

## "Зварот да вертыкалі"

*У нашым распараджэнні ёсць ліст З.Пазьняка, дасланы ім з палітэміграцыі. Гэты ліст да тых, хто працуе ў органах выканаўчай улады, у пракуратуры і судах, у праваахоўных органах.*

*Зянон Пазьняк добра ведае сітуацыю і грамадскі настрой, якія пануюць зараз на радзіме. Ён вымушана апынуўся за яе межамі, усё часцей гавораць аб тым, што хутка лідэр БНФ вернецца дадому, каб непасрэдна кіраваць дзеяннямі апазіцыі ў яе барацьбе за незалежнасць краіны, дэмакратыю і наспеўшыя рэформы.*

***Тым часам рэжым упарта працягвае сваю тупіковую і самагубную палітыку, робячы яе закладнікамі многіх людзей. Да іх і звяртаецца З.Пазьняк у сваім лісце, які мясцовыя арганізацыі БНФ рассылаюць цяпер персанальна кожнаму вертыкальшчыку. А мы знаёмім чытачоў з асноўнымі фрагментамі гэтага дакумента.***

— Я шмат каго ведаю з вас асабіста, ведаю ваша становішча, дачыненні з дзяржаўнай маёмасцю некаторых адказных асобаў. Год раней мой зварот, магчыма, быў бы бессэнсоўным. Мае меркаванні не былі б успрыняты, як не ўспрымалася ў вашым асяроддзі нічога, што казаў Народны фронт.

Калі пераможа Народны фронт, — кажа ваш прэзідэнт, — то вам ўсім разам "канец". Магчыма, так бы і сталася, чыстка б была. Але Лукашэнка распачаў расейскую акупацыю Беларусі. Пад пагрозай апынуліся наша незалежнасць, наша дзяржава і наша нацыя. Нельга дапусціць, каб прадалі і ўтапілі ўвесь народ.

Я думаю, што перад небяспекай страты дзяржавы і ў інтарэсах беларускай нацыі — лепш, каб была іншая развязка —канец дыктатуры. Таму я — за амністыю.

Не патрабуйце гарантыяў. Бо гарантыя і для палітыка, і для прайдзісвета адна —толькі слова. У вас вялікія магчымасці не рабіць, не памнажаць зло. Тады грамадзтва сцвердзіць сябе. Тады зберажэм Беларусь.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".**
**18 сакавіка 1997 г.,**
**г. Варшава.**

*Тут нашыя*
*песьні,*
*тут наша*
*багацьце,*
*Тут жытняе*
*мора,*
*магілы дзядоў,*
*І родныя хаты,*
*і людзі,*
*як брацьці,*
*І казкі, і слава*
*мінулых часоў...*





## Тварог як сродак падтрымання дэмакратыі

Заходжу ў тую выбарчую нядзелю ў харчовы магазін і ўжо які тыдзень бачу, што тварагу ў продажы няма. Ніяк не злаўлю. Уздыхнуў і збіраўся сыходзіць, як раптам пачуў, як адна кабета кажа другой: "Схадзі на выбары. Там таго тварагу колькі хочаш!"

Пабег і я на выбарчы ўчастак. Заходжу. Людзей, акрамя выбарчай камісіі, нікога. Затое ў пустым буфеце колькі хочацца і тварагу, і тварожных батончыкаў —толькі бяры. Узяў. Але ж такога прадукту не накупішся на месяц наперад. Адна надзея, што на многіх участках выбары не адбыліся, значыць будуць паўторныя. Цяпер буду сачыць, каб ізноў набыць без чаргі дэфіцытныя прадукты.

**Марк ШЛЯФЕР,**
**магіляўчанін.**

# Полушепотом о главном

## Пролог

***Незадолго до моего прихода Владимир Шанцев, руководитель могилевского филиала Фонда поддержки демократических реформ им. Льва Сапеги, имел не самый приятный разговор с представителем компетентных органов. Это в какой-то мере наложило отпечаток и на наш разговор, в котором хватало умолчаний и многоточий. И все время не покидало ощущение, что фиксируется каждое слово... Сейчас, когда уже и президенту известно, кто такой Л.Сапега и, более того, он даже сослался недавно на Великого канцлера в положительном смысле, — я не просила моего собеседника поведать читателям о Л.Сапеге. Мы беседовали исключительно о движении, названном его именем. И вот что у нас получилось, если опустить мои наводящие вопросы, а оставить ответы В.Шанцева в виде монолога.***

**Об истории идеи**

В начале девяностых годов, когда не стало "руководящей и направляющей силы", в обществе исчез некий стержень, что положило начало его дезорганизации, лихорадочному поиску новых идей. И тогда группа могилевских депутатов предложила обратиться к опыту соседних стран, в частности к системе их парламентаризма. Побывали на некоторых семинарах, завязали первые связи. Потом зарегистрировались как Фонд имени Льва Сапеги. Не случайно. В его времена на территории, на которой мы живем, была европейская держава, а Статут ВКЛ был образцом для всей Европы. История обошлась с Беларусью не лучшим образом, теперь многое надо начинать сначала.

**О желаемом и действительном**

Основное внимание мы уделяем проблемам местного самоуправления как неотъемлемой части демократического и открытого общества. Сегодня у нас местного самоуправления практически нет: все предлагается сверху и все решается наверху. Даже бюджет территории несамостоятелен, нет и независимой от центра кадровой политики. У советов сейчас полномочий меньше, чем даже было при советской власти. Мы готовы в любой момент предложить идеи, разработки и обобщенный опыт.

**Об отношениях с властью**

Мы не теряем контактов с местной властью и депутатами. Ведь местное самоуправление это именно то, что их и должно волновать. К тому же профессионалам международный опыт знать нужно обязательно, хотя бы для кругозора. Мы проводим семинары и направляем на них не только работников власти, но и представителей партий, общественных организаций. А недавно мы организовали постоянный клуб молодых лидеров, в котором собираются лучшие инициативные студенты из всех наших институтов. В клубе на днях прошла интересная психологическая игра, которую консультировал кандидат наук, доцент О.Тугай. Молодежи понравилось, будем продолжать работать.

**О финансировании**

Наш проект первоначально получил грант Фонда Сороса и Фонда Евразия. В прошлом году на эти средства провели международный семинар с участием специалистов из Германии. К этому проекту проявило интерес и правительство этой страны. Работа продолжилась и в этом году, недавно с поддержкой немецкого правительства провели семинар у нас. Хочу обидеться на прессу, местные газеты сообщили



об этом вскользь и вдогонку события.

**О политической лояльности**

Фонд наш не политическая организация и мы стараемся соблюдать все требования закона в связи с этим. Хотя для нормального существования Фонда, как и для всех нас, нужно больше политических свобод. Иногда, как гражданину, удается делать полезные вещи: например, будучи наблюдателем на последнем референдуме, настоял на закрытии участка, где было особенно много нарушений. К нашему белорусскому парламенту отношусь также, как и все европейские страны. Это не парламент, а на международном политическом языке — хунта. Особенно тревожит, что у нас недопустимое отношение к оппозиции. Она не враг, а естественная часть любого демократического общества. Неудобства, которые она причиняет власти, несравнимы с тем ущербом обществу, который приносится ее отсутствием.

**О интеграции**

Кто-то хочет извлечь для себя из этого кратковременную политическую выгоду, не думая о народе. И в России разобраться бы со своими проблемами, и у нас также. Вместо этого идеологическое отвлечение народа. И спекуляций на эту тему недобросовестных много: Европа объединяется! Там действительно объединяющих начал больше, чем здесь. Но ведь не пропагандистских, а экономических, правовых. Процесс никто не форсирует, все прошло свои естественные этапы и периоды, у многих государств Европы уравнены все параметры жизни и другие условия. И то, как мы видим, никто не спешит с чрезмерным и непродуманным объединением. Жить в добром соседстве, соблюдать одни законы и т.д. — совсем не означает, что надо раствориться в другой стране.

**О перспективах**

Беларусь станет нормальной европейской страной. Иначе и быть не может. Но развитие наше задержано. Мы уже потеряли хорошие стартовые условия и теряем время сейчас. Обидно.

## Эпилог

***Владимира Шанцева на недавних выборах не зарегистрировали кандидатом в городские депутаты по надуманному поводу. Что, казалось бы, может быть в политическом смысле безобиднее организации, которая поддерживает демократические реформы, просвещает людей, помогает учебой работникам власти, депутатам, молодежи, которая депутатами станет завтра. И денег не прочит. Но для власти сегодняшней опасна сама идея свободы и открытости, потому что заразительна.***

***Наверное, Беларусь и в самом деле станет европейской цивилизованной страной. Ведь нередки случаи, когда в семье алкоголиков растут совершенно непьющие дети. Как говорится, многое в жизни происходит от противного. Жаль только, что противного у нас хоть отбавляй.***

Саша ГЖЕЛЬСКАЯ.

# Бліскучы канцлер

***4 красавіка 1557 года нарадзіўся Леў Сапега — адзін з самых слынных і выдатнейшых людзей беларускага Сярэднявечча. Ён быў выдатна адукаваным і высока культурным чалавекам. Не толькі па тых часах, але і па сённяшніх мерках.***

***Будучы адным з набліжаных да караля Рэчы Паспалітай і падканцлерам Вялікага княства Літоўскага, ён у цяжкія гады, з 1581 па 1587 выратаваў Княства як самастойную беларускую дзяржаву.***

***Леў Сапега стаўся таксама аўтарам Статута 1588 года, які і па сённяшні дзень прызнаецца ва ўсім свеце выдатнейшым дакументам, па якому жыла дэмакратычная і вольная тагачасная Беларусь. Яму, Льву Сапегу, на пасадзе Вялікага канцлера, выпала выключна цяжкая задача пазбегнуць як захопу Беларусі з боку Польшчы, так і Расіі.***

***Леў Сапега памёр у Вільні на 77-м годзе жыцця і пахаваны ў тамтэйшым касцёле святога Міхаіла. Ягонае шматцяжкае жыццё, яго патрыятызм і розум, ягоныя палітычныя і ваенныя здабыткі вартыя вечнай памяці ўдзячных нашчадкаў.***

***Прапануем некалькі думак Л.Сапегі, падабраных для публікацыі журналістам***

***Юрасём Півуновым.***

## З творчай спадчыны Льва Сапегі



...Мудрацы розных часоў лічылі, што ў кожнай дзяржаве прыстойнаму чалавеку даражэй за ўсё свабода. Няволя ж настолькі агідная, што ад яе трэба пазбаўляцца ўсімі сродкамі. Таму людзі, якія паважаюць сябе, не павінны шкадаваць ні маёмасці, ні нават свайго жыцця, каб не трапіць пад жорсткую ўладу няволі. А тыя, хто зрабіўся паднявольным, але мае свабодалюбівы, незалежны характар, таксама не павінны цярпець над сабой непрыяцеля. І не толькі нейкага чужаземца, да якога трапілі ў палон, але і свайго тутэйшага. Дзеля гэтага і створаны законы — тыя аброць і цуглі, якія будуць стрымліваць кожнага нахабніка ад усялякага гвалту і самавольства і не даваць яму магчымасці здзекавацца са слабейшых і бяднейшых ды прыгнятаць іх: каб не мог багаты і магутны паводзіць сябе так, як яму пажадаецца.

Галоўнай мэтай законаў ва ўсім свеце з'яўляецца падтрыманне ў грамадстве такога становішча, каб кожны мог захоўваць у непарушнасці добрае імя, здароўе і маёмасць і не цярпець з боку іншых ніякай шкоды. У гэтым і заключаецца наша свабода, якой мы ганарымся перад іншымі хрысціянскімі народамі...

Прашу сачыць, каб у суды і трыбуналы выбіраліся людзі не толькі дасведчаныя і добрыя, але набожныя і дабрадзейныя, якія б не для ўласнай выгады і на шкоду чалавеку з-за сваёй хцівасці і за хабар законы парушылі, а выключна прадугледжаным парадкам дзейнічалі, зберагаючы святую праўду і справядлівасць.

# "Причем здесь их личные автомобили?" — подумали мы, прочитав статью президентского представителя

Главный инспектор Главного управления кадровой политики Администрации Президента Республики Беларусь Тамара БЕЛКИНА:

**"Я привык быть депутатом", -- так ответил мне один из постоянных обладателей депутатского мандата**



Статья была опубликована в "Могилевских ведомостях" накануне недавнего очередного тура выборов в местные Советы. Чтобы не вмешиваться в ход выборов, свой отклик на эту публикацию мы предлагаем теперь, после их завершения.

Первое впечатление от прочитанного в МВ было таким: не может быть! Прочитал еще раз: да нет, так и написано. Как говорится, черным по белому. Опубликовано в официальной газете, по-старому говоря, в "органе" местной власти. Подписано официальным лицом — словом, директива, адресованная не столько избирателям — что они могут? —сколько, вероятно, властям и избирательным комиссиям. Эти могут многое: результаты всех последних выборов и особенно референдума, убедительное тому подтверждение.

Статья, хотя и была посвящена, как сказано, выборам, однако не затрагивала ничего, что имело бы отношение к политике. Названные в ней кандидаты в местные депутаты рассматривались не с точки зрения их партийной принадлежности или предлагаемых депутатских программ, что было бы естественно и даже необходимо. Аналитический взгляд брошен на них с неожиданной стороны, которая, казалось бы, навсегда осталась в нашем советско-коммунистическом прошлом: зависти и подозрительности.

Выборы — не больше, чем повод. Президентский в нашей области представитель в полном соответствии с официальной точкой зрения считает, что никакой политической жизни в стране нет. В основу его аналитического взгляда положен "железный" рабоче-крестьянский принцип: имущественный. С подкупающей тщательностью у выбранных для анализа претендентов перечислены все их автомобили, другое имущество, названы близкие родственники, прорекламированы производственные достижения. (Со страхом подумалось, а что если по фамилиям и адресам этой публикации пойдут "с благородной целью" наведения справедливости наши, отнюдь благородством не отличающиеся, доморощенные робин-гуды? Оправдание у них будет не менее железное, чем и логика автора публикации: богатый (по нашим, конечно) меркам — значит, враг "трудового народа", президента и создаваемой им системы).

В этой системе не место предпринимателям, акционерам, банкирам, коммерсантам, фермерам. Все эти понятия, а значит и стоящие за ними люди, у нас антигосударственные, антинародные. "Я свой народ за цивилизованным миром не поведу" (А.Лукашенко).

Конечно, у экономически свободных и предприимчивых людей зарплата значительно больше, чем та, которую "дает" простым рабочим и крестьянам президент со всем своим окружением. Но ведь и работают они по-разному. Думаю, многим из предпринимателей сегодня не позавидуешь, даже и их машинам. Среди моих знакомых такие есть и я свидетельствую, что менее всего им сейчас до "красивой жизни". Тут бы под подозрение бдительной и ревнивой власти не угодить, за решетку не быть препровожденным, а то и пулю бы не схлопотать (постучите по дереву).

Нет, уровень красивой, удобной и обеспеченной жизни определяется у нас не личным талантом и упорным трудом. Это автор хорошо чувствует, точно знает и приветствует. Этот уровень у нас определяется отношением к власти и с властью. Я хотел раздобыть для этой статьи перечень хотя бы только "домсоветовских" автомобилей и стоимость их содержания. Оказалось, что это огромный секрет. Слуги народа не склонны афишировать те "скромные" льготы, которыми пользуются, конечно, исключительно в служебных целях. Хотя я знаю одного начальника, который начал свою должность с приобретения, за государственный счет разумеется, "31-ой" служебной "Волги" с тонированными стеклами, а всех дел у него вне кабинета — съездить на обед и обратно. Автомобиль, особняк, путевка, заграничная учеба детей в обмен на службу и пока ты на службе — вот советский рецидив, прочно укоренившийся в Беларуси. С какой стати кто-то еще может иметь такие же права, хотя бы и за свой счет?! Не важно, что эти права он имеет от Бога, или, мягче сказать, от родителей. Родился, вырос, живет, работает — и может себе позволить иметь все, на что может зарабатывать. Об этом, кажется, и рассуждать-то в наше время неловко...

Нет, дело все-таки тут в политике. Всякие там "безлошадные" демократы были отрезаны от выборов еще на далеких подступах. А вот некоторые "из сомневающихся, колеблющихся" в отношении президентского курса, проскочили в избирательные списки. По ним и был нанесен удар, хотя бы и завуалированный. Но с обостренным чувством интуиции: предприниматель объективно не может быть "коммунистом", то есть не может быть за нынешнюю экономическую политику — значит ему и не место в депутатском зале.

Вот и весь секрет праведного "рабоче-крестьянского гнева" официального лица, представляющего в нашей области самого президента.

Настойчиво подчеркиваю это по той причине, что после публикации прошло достаточно много времени, а никакого опровержения из любого должностного кабинета или от другого официального лица на пафос и смысл той предвыборной статьи, не прозвучало.

Значит, мы вправе думать: такая точка зрения, такая политика — официальные.

Геннадий СУДНИК.

